**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 31 (799) 30 ліпеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Фэст у Лучаі быў, як ніколі, шматлюдным!**
*Спявае Валянціна Альшанская.*



*Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023



### Дубровенскі раён

## За памылкі – пад суд

■ Станіслаў Раманчук.

**Значны грамадскі рэзананс атрымала па ўсёй краіне яшчэ летась гісторыя з 11-гадовым хлапчуком з Дубровенскага раёна, які на летніх канікулах зламаў левую руку.**

А праз некалькі тыдняў у мясцовы райаддзел Следчага камітэта звярнулася яго мама і напісала заяву аб неналежным аказанні патрэбнай дапамогі медыкамі малалетняму сыну. У той дзень здарэння пацярпелага школьніка вечарам даставілі ў траўпункт Аршанскай цэнтральнай паліклінікі, дзе аказалі першую дапамогу і пасля патрэбных даследванняў наклалі гіпс. Але самаадчуванне Стасіка не палепшылася, рука ацякла і моцна балела і праз тры дні родныя прывезлі яго ў райцэнтр на прыём да загадчыка хірургічнага аддзялення Дубровенскай ЦРБ. На жаль, гэты ўрач не ўбачыў абвастрэння хваробы, не прызначыў дадатковыя ў такім выпадку аналізы, тэрмаметрыю цела і не зняў гіпсавую павязку, што і прывяло да бяды. Яшчэ праз некалькі дзён рука стала практычна чорнай, пачалася гангрэна, і хірургам абласной бальніцы нічога не заставалася, як яе ампутаваць поўнасцю да пляча. Следчыя сабралі шмат доказаў, што медработнікам дапушчана службовая халатнасць пры выкананні сваіх абавязкаў і дзеючых службовых інструкцый. Ён ужо пазбавіўся пасады загадчыка аддзялення і ў самым лепшым выпадку выплаціць буйны штраф і можа пазбавіцца права займацца ўрачэбнай дзейнасцю. Суд таксама можа пакараць гэтага ўрача папраўчымі работамі на 2 гады, альбо абмежаваннем свабоды на такі ж тэрмін. Сам жа вясковы хлопчык стаў інвалідам і пачаў атрымоўваць пенсію.

### Пастаўскі раён

## На грані адчаю

■ Кастусь Александровіч

**Нават напярэдадні сёлятняга жніва шмат дзе ў вобласці гаспадаркі не змаглі разлічыцца з людзьмі за працу яшчэ вясной.**

Не пазбегнуў гэтых праблем і буйны Пастаўскі раён, дзе таксама вяскоўцы падчас “прамых ліній” рэгулярна скардзяцца ўладам на працяглыя затрымкі заробкаў. Дайшло ў сярэдзіне ліпеня да таго, што жыхары населеных пунктаў Парыж, Вярэнькі, Андроны і іншых ад адчаю прыгразілі, што не выйдуць на работу, калі ім не пачнуць выдаваць хоць бы часткамі зароблены грошы. Праўда, да крайніх мер справы не дайшлі, бо ў рэгіёне сітуацыя з затрымкамі зарплат крыху лепшая, чым у суседзяў. За сакавік з хлебаробамі разлічыліся поўнасцю, а з красавіцкага аб’ёму налічаных грошай каля 9 млрд. рублёў “завіслі” 520 млн. Пратэрмінаваныя выплаты за працу ў маі аказаліся большыя, у памеры амаль 2,8 млрд. рублёў, аднак перапрацоўшчыкі сыравіны абнадзеілі, што сродкі сваім пастаўшчыкам пачнуць пералічваць. Аднак і працаўнікі сельскай гаспадаркі павінны ўсвядоміць, што жыць, як раней, на “халяву” і атрымоўваць незаробленыя грошы не атрымаецца болей. Выручка ж на аднаго работніка ў гаротных гаспадарак невялікая, чатыры калгасы дапусцілі значны спад вытворчасці, а вось даўгі перад мясцовым малзаводам выраслі да 90 млрд. рублёў. Розніца ў надоях малака паміж лідарамі і адстаючымі дасягае больш 2,5 тысяч літраў на карову. Каб якасць прадукцыі ферм была б лепшай, то на рахункі гаспадарак паступіла дадаткова 4 млрд. рублёў і праблем стала меней.

### Віцебская вобласць

## Гінуць людцы ў вадзе

■ Чэслаў Якубовіч.

**Рэдка які тыдзень абыходзіцца сёлета ў Прыддзвінні, каб не прыходзілі трагічныя паведамленні аб гібелі людзей на вадаёмах вобласці.**

Крыўдна, што топяцца людзі не толькі падчас купання, але і на рэках, якія вельмі моцна абмялелі з-за працяглай засухі. Вось і ў гарпасёлку Руба, што паблізу абласнога цэнтра, днём у разгар працоўнага дня ля ўзводзімага маста праз Заходнюю Дзвіну патанула буравая ўстаноўка. Адразу пасля абеду 45-гадовы вадзіцель з Салігорска не справіўся з кіраваннем аўтамабіля ЗІЛ -131 віцебскага прадпрыемства “Мастабуд”, на шасі якога яна працавала, і з’ехаў у ваду. Пры правядзенні работ па бурэнню свідравін машына апынулася ў вадзе. На бяду, шматтонная канструкцыя перакулілася менавіта на левы бок, на якім працаваў чалавек. Вадзіцельская кабіна апынулася пад вадой і была заблакавана, кіроўца не змог выбрацца з воднай пасткі і загінуў. Яго труп неўзабаве дасталі выратавальнікі МНС, калі ўдалося з дапамогай спецтэхнікі прыпадняць над вадой буравую ўстаноўку. Таксама на працягу некалькіх дзён загінулі ў вадаёмах і два рыбакі, якія рыбачылі з берага. У Полацкім раёне знайшоў сваю пагібель пенсіянер у пажарным вадаёме, калі ўпаў у ваду з-за прыступа эпілепсіі. На тэрыторыі Чашніцкага раёна трагічна загінуў на рыбалцы 35-гадовы мужчына на адным з каналаў Лукомльскай ГРЭС, калі паплыў адчапляць кручок, які за нешта зачапіўся. З пачатку года на Віцебшчыне на вадаёмах патанулі ўжо 39 чалавек, з якіх – пяцёра дзеці.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 30.07.15 | | | | Пятніца 31.07.15 | | | | Субота 01.08.15 | | | | Нядзеля 02.08.15 | | | | Пан. 03.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +13 | +19 | +16 | +13 | +15 | +19 | +16 | +13 | +15 | +18 | +15 | +12 | +14 | +16 | +14 | +11 | +17 | +22 |
| Ціск | 741 | 742 | 740 | 741 | 742 | 744 | 744 | 744 | 745 | 748 | 749 | 750 | 752 | 754 | 754 | 754 | 754 | 755 | 753 |
| Вільготнасць | 6 | | 14 | 8 | 8 | 12 | 14 | 6 | 7 | 9 | 10 | 7 | 5 | 7 | 8 | | | 7 | 7 |
| | Ю-З | Ю-В | Ю-З | Ю-З | Ю-З | Ю-З | Ю-З | З | З | З | З | З | З | З | З | Ю | Ю | Ю-З | Ю-З |
| Вецер м/сек | 79 | 95 | 56 | 70 | 74 | 78 | 49 | 59 | 83 | 95 | 76 | 68 | 81 | 77 | 58 | 73 | 80 | 71 | 47 |

# Аб самым надзённым

## НАВЯРСТАЦЬ СТРАЧАНАЕ АПОШНІМ ЧАСАМ ГІГАНТАМІ АЙЧЫННАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ З-ЗА ЗАЦЯЖНОГА КРЫЗІСА НЕ АТРЫМАЕЦЦА




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Зараз трэба прызнаць, што айчыннае машынабудаванне, і не толькі яно, не вытрымліваюць канкурэнцыю з адпаведнымі сусветнымі брэндамі, асабліва ў сферы маркетынга і менеджэмента. Больш упэўнена адчуваюць сябе ў свеце, напэўна, толькі асноўныя здабытчыкі валюты для Беларусі – абноўленыя “Беларуськалій”, жлобінскі БМЗ і два нафтаперапрацоўчыя заводы ў Наваполацку і Мазыры.**

Яшчэ нядаўна глава Беларусі меў звычку асабіста наведваць не толькі сталічныя заводы, але і прадпрыемствы ў рэгіёнах, на якіх праходзіла мадэрнізацыя. Акрамя таго, кіраўнік дзяржавы асабліва вялікую ўвагу ўдзяляў галіне дрэваапрацоўкі, дзе разбіраўся неаднаразова ў прычынах зрыву даведзеных заданняў, прыняў шэраг жорсткіх і вельмі непапулярных рашэнняў. Аднак і пасля такіх паездак тэрміны рэалізацыі маштабных інвестыцыйных праектаў не вытрымліваліся, а гэта галіна эканомікі так і не дала дагэтуль патрэбнай аддачы, на якую разлічвалі.

Апошнім часам такіх рабочых паездак стала меней, напэўна ад таго, што беларуская эканоміка стала перажываць вельмі няпростыя часы маштабнага крызіса, якому не бачна канца. Гэта Вам не жартачкі, калі ў першай палове года аб’ёмы прамысловай вытворчасці скарацілся ледзь ці на 8 % і ўзраслі запасы непрададзенай прадукцыі на складах. Здарылася самае сумнае, што асноўны расійскі рынак збыту айчынных тавараў вельмі моцна “прасеў” і ў значна меншых аб’ёмах стаў купляць беларускую прадукцыю, чым раней. Вельмі моцна ў сілу вядомых падзей згубілі мы і ва ўзаемным гандлі з суседняй Украінай.

Неяк у дзяцінстве, падчас вучобы ў школе настаўнікі даводзілі нам, што гісторыя заўсёды развіваецца па спіралі. Цяпер, падобна на тое, што наша краіна быццам зноў вярнулася ў пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі маладыя амбіцыйныя тады палітыкі абяцалі на тэледэбатах беларусам “запусціць заводы”. Як ні горка, але зноў мы вяртаемся ў няпростае мінулае. Да прыкладу, прамысловы гігант “Гомсельмаш” зменшыў цяпер вытворчасць сваіх збожжаўборачных камбайнаў у 6 разоў. Не лепшая сітуацыя ў беларускай сталіцы, дзе на МАЗе таксама больш чым у 2 разы зменшыўся выпуск аўтамабіляў.

Да пачатку лета сёлета на гэтым аўтазаводзе, па дадзеных статыстыкі, сабралі толькі 1466 грузавікоў, што меней паловы выпуску мінулага года. Экспартныя пастаўкі мінскіх грузавікоў упалі на 81 % пры зніжэнні адпускных цэн на чвэрць. Нават 20 гадоў назад, калі МАЗу жылося вельмі цяжка, гэта прадпрыемства ў 1995 годзе выпрабіла 12,6 тысяч машын і прадала іх. Зараз з прадажамі айчынных грузавікоў проста бяда і невыпадкова ў гэтай пяцігодцы толькі МАЗ звольніў звыш 5200 рабочых і служачых. Адчувальнае зніжэнне беларускага экспарту зафіксавана і на МТЗ ( на складах пастаянна ад 8 да 10 тысяч трактароў), жодзінскі БелАЗ знізіў вытворчасць сваіх кар’ерных самазвалаў у 2 разы.

Падобных прыкладаў можна прыводзіць шмат, аднак самае сумнае, што асобныя галіны прамысловасці: станкабудаванне, вытворчасць беларускіх тэлевізараў ужо пакрыху выміраюць. Выпуск, дарэчы, айчынных каляровых тэлевізараў “Гарызонтаў” і “Віцязяў” за 3 апошнія гады зменшыўся ў 10 разоў. На сталічным тэлезаводзе сёлета за 5 месяцаў выпусцілі меней 15 тысяч тэлепрыёмнікаў, а прадпрыемства страціла з 2006 года каля 3 тысяч работнікаў і на ім засталося толькі 570 супрацоўнікаў. Айчынныя тэлевізары цяпер мала хто з беларусаў купляе, іх доля прадаж скарацілася да 12 %. З выпускам беларускіх матацыклаў і веласіпедаў пад пільным кантролем малонак яшчэ больш сумны, іх выпуск упаў адпаведна ў 35 і 12 разоў меней, чым два дзесяцігоддзі назад.

Зараз трэба прызнаць, што айчыннае машынабудаванне і не толькі яно не вытрымліваюць канкурэнцыю з адпаведнымі сусветнымі брэндамі, асабліва ў сферы маркетынга і менеджэмента. Больш упэўнена адчуваюць сябе ў свеце, напэўна, толькі асноўныя здабытчыкі валюты для Беларусі – абноўленыя “Беларуськалій”, жлобінскі БМЗ і два нафтаперапрацоўчыя заводы ў Наваполацку і Мазыры. Лёс жа астатніх буйных айчынных вытворцаў у бліжэйшы час вельмі туманны. Да выбараў дзяржава пасля праведзеных нарад у Мінску на вышэйшым узроўні іх зможа падтрымаць, а што будзе далей?

Ужо ніхто ў краіне і не заікаецца, што сёлета павінна была ажыцявіцца задача па дасягненню сярэдняй зарплаты ў памеры 1 тысячы долараў у эквіваленце. Выручку ад рэалізацыі прадукцыі у разліку на аднаго працуючага таксама планавалі ў 2015 годзе давесці да 103 тысяч USD. Вось толькі жыццё на паверку прад’яўляе ўсім нам горкі рахунак, паколькі стаўка на пераважна камандна-адміністрацыйную эканоміку з састарэлымі тэхналогіямі сябе не апраўдала…

## Дзень за днём

**З-за моцнай засухі сёлета зменшыцца ўраджай збожжавых. Па краіне скарацілі на 1 мільён квадратных метраў аб'ёмы будаўніцтва жылля, страты айчынных вытворцаў выраслі з пачатку года ў 2 разы. А. Лукашэнка першым пайшоў балатавацца на вышэйшую ў Беларусі пасаду на свой пяты тэрмін. Эксперты спрагназавалі далейшае падзенне цэн на нафту і ў 2016 годзе. За паўгода жыхары сталіцы не заплацілі 10 мільярдаў рублёў за камунальныя паслугі, колькасць расійскіх турыстаў у Беларусі скарацілася на трэць. Падчас восеньскага прызыву ў Беларусі запланавалі прызваць у армію 10 тысяч юнакоў і яшчэ 2 тысячы – на службу ў рэзерве.**

# Важнейшыя навіны свету

**Грэцыя.** Пасля напружаных 17-гадзінных перамоў у Брусэлі ЕС пагадзіўся аказаць грэкам зноў фінансавую падтрымку, але адмовіўся спісаць нават часткова іх даўгі па крэдытах.

**ЗША.** Санкцыі супраць Расіі, як заявіў віцэ-прэзідэнт Джо Байдэн, будуць захоўвацца да таго часу, пакуль Украіна не адновіць поўнасцю сваю міжнародную граніцу ў Данбасе.

**Расія.** Штомесяц справы ў расійскай эканоміцы, як паведаміў прафесар Вышэйшай школы эканомікі У. Рыжкоў, пагаршаюцца, спад ВУП будзе 4 %, адток капіталу – 100 млрд $.

**Аўстралія.** Услед за Галандыяй краіна і яшчэ Бельгія, Малайзія, Украіна афіцыйна звярнуліся ў ААН з просьбай аб стварэнні міжнароднага трыбунала па збітаму “Боінгу”.

**Аўстрыя.** Адразу пасля паведамлення аб дасягненні пагаднення па ядзернай праграме Ірана на перамовах у Вене сусветныя цэны на нафту знізіліся яшчэ на 2 %.

**Расія.** Услед за крушэннем пятага за месяц навейшага ваеннага самалёта ў Омску ў выніку абрушэння даху казармы вучэбнага цэнтра ПДВ падчас адбою загінулі 23 дэсантнікі.

**Грузія.** Краіна абвінавáціла Расію ў парушэнні норм міжнароднага права пасля пераносу рускімі пагранічных слупоў на некалькі соцень метраў у глыб грузінскай тэрыторыі.

**Сірыя.** Баевікі ваенізаванай групоўкі ІГІЛ запусцілі рускамоўны канал у сетках Інтэрнэту з мэтай вярбоўкі ў свае банды маладых рускіх грамадзян, іх ваюе тут і ў Іраку 2 тысячы.

**Англія.** МЗС РФ абурыўся раптоўным рашэннем брытанскіх улад зачыніць рахункі рупара прапаганды Крамля - дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва “Россия сегодня”.

**ЗША.** На палігоне ў Невадзе прайшлі выпрабаванні ядзернай бомбы B 61 двайнога прызначэння для адпрацоўкі яе прымянення з самалётаў НАТО ў Еўропе.

**Расія.** З-за выхаду са строю адразу 4-х рухавікоў пад Хабараўскам рухнуў другі сёлета стратэгічны самалёт-ракетаносец Ту-95МС, яго 5 членаў экіпажа паспелі выратавацца.

**Украіна.** Глава місіі назіральнікаў АБСЕ Э. Апакан пацвердзіў, што за два апошнія месяцы сітуацыя ў Данбасе значна пагоршылася, там пачасціліся перастрэлкі.

**Англія.** Спецыялісты лонданскай кампаніі KAZ Designs распрацавалі ўнікальны від парасонаў, якія раскрываюцца “наадварот” і не ламаюцца ад моцнага ветру.

**ЗША.** Пасля запуску ў студзені 2006 года з мыса Канаверал касмічны апарат NASA дабраўся да самай далёкай карлікавай планеты Плутон, пачаў яе даследваць.

**Расія.** Канстытуцыйны суд дазволіў РФ не выконваць рашэнні Еўрапейскага суда па правах чалавека, падаў у адстаўку галоўны трэнер зборнай РФ па футболе Ф. Капэлла.

# Мінфін хоча павялічыць падаткі на нерухомасць

■ БелаПАН

**Міністэрства фінансаў Беларусі прапануе пашырыць падатковую базу па падатку на нерухомасць.**

Адпаведная мера прадугледжана Асноўнымі напрамкамі бюджэтна-фінансавай і падатковай палітыкі на 2016 год і сярэднетэрміновай фінансавай праграмай на 2017-2018 гады, якая ўжо разглядалася ва ўрадзе.

Паводле звестак галоўнага ўпраўлення бюджэтнай палітыкі Мінфіна, меры па ўдасканаленні падатковай сістэмы ў сярэднетэрміновай перспектыве мяркуюць павышэнне эфектыўнасці збірання маёмасных падаткаў (зямельнага падатку і падатку на нерухомасць).

У прыватнасці, плануецца стымуляваць ўцягванне ў гаспадарчы абарот невыкарыстоўваемых і неэфектыўна выкарыстоўваемых зямельных участкаў і аб'ектаў нерухомасці.

«З 1 студзені 2016 прапануецца даць права мясцовым саветам дэпутатаў па павелічэнні да 5 разоў ставак зямельнага падатку за зямельныя ўчасткі, на якіх размешчаны невыкарыстоўваемая (неэфектыўна выкарыстоўваемая) маёмасць, а таксама ў дачыненні да непасрэдна невыкарыстоўваемых зямельных участкаў», - гаворыцца ў матэрыяле галоўнага ўпраўлення бюджэтнай палітыкі Мінфіна, які апублікаваны ў апошнім нумары часопіса «Фінансы, улік, аўдыт».

Акрамя гэтага, паведамляе галоўнае ўпраўленне, плануецца «пашырэнне падатковай базы па падатку на нерухомасць шляхам правядзення неабходнай работы да пераходу на яго спагнанне ад кадастравага кошту».

У гэтых мэтах, па дадзеных Мінфіна, праводзіцца пілотная рэалізацыя праекта ў Брэсцкай вобласці і Мінску па стварэнні сістэмы масавага фарміравання аб'ектаў нерухомай маёмасці і іх кадастравай ацэнкі для мэт падаткаабкладання.

Між тым, беларускае бізнес-супольнасць не згодна з новымі падыходамі па вызначэнні падатковай базы для збірання падатку на нерухомасць. Старшыня Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Калінін бачыць сёння спробы дзяржорганаў спаганяць падатак у памеры 2,5% ад рынкавага кошту аб'ектаў нерухомасці і лічыць такі падыход дэструктыўным. «Стаўка падатку на нерухомасць у памеры 2,5% ад капіталу, які інвестуецца, супастаўная са стаўкамі па крэдытах у Еўрасаюзе, і фактычна будзе перашкаджаць ўводу новых прамысловых аб'ектаў у краіне», - перакананы ён.

Падатковая нагрузка на бізнас, падкрэслівае Калінін, сёння ў Беларусі вышэй, чым у іншых краінах Еўразійскага эканамічнага саюза, таму неабходна весці размову аб зніжэнні ставак падаткаў, а не па пашырэнне базы для вылічэння падаткаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Крайне сумніўна, як заявіў эксперт-міжнароднік А. Фёдараў, што Беларусь атрымае эканамічныя дывідэнты ад спроб збліжэння з Шанхайскай арганізацыяй (ШАС).

**Гомель.** Толькі на выплату % па аблігацыях дзяржзайму “Гомсельмашу” трэба штогод мець 30 мільёнаў долараў, але фінансавы стан завода-гіганта цяпер рэзка пагаршаецца.

**Добруш.** Пасля выплат даўгоў па зарплаце каля 50 кітайскіх будаўнікоў кампаніі “Сюань Юань” захацелі вярнуцца на радзіму, іх фірма ўзводзіць тут кардонную фабрыку.

**Мінск.** Генеральны дырэктар ААТ “Крыніца” А. Кіжук папярэдзіў, што сёлета ў сувязі са зніжэннем даходаў беларусаў і іх пакупніцкай здольнасці піўны рынак можа ўпасці на 5-7 %.

**Барысаў.** Пасля заканчэння мадэрнізацыі на “Барысаўдрэве” колькасць працуючых за год зменшылася амаль на 150 чалавек, ідзе аптымізацыя і на іншых прадпрыемствах горада.

**Мінск.** Пасля арышту інвестара “Мотавела” і яго партнёраў па бізнасу новы дырэктар, былы мэр сталіцы М. Ладуцька, прапанаваў кітайцам ствараць сумеснае прадпрыемства.

**Гродна.** Трэст “Гроднааблсельбуд” у пачатку ліпеня не разлічыўся са сваімі работнікамі, аб'ектаў стала меней у 2 разы, істотна ўпалі заробкі ў будаўнікоў па ўсёй Беларусі.

**Мінск.** Міністрадукацыі М. Жураўкоў паведаміў, што з верасня гэтага года рэктараў беларускіх ВНУ пачнуць выбіраць па нормах Балонскага працэса, а не прызначаць, як раней.

**Рэчыца.** Вярхоўны суд Беларусі пакінуў у сіле смяротны прыгавор раней судзімаму мясцоваму жыхару С. Іванову, які з асаблівай жорсткасцю забіў 19-гадовую дзяўчыну.

**Мінск.** Прадажы грузавых аўтамабіляў МАЗ на асноўным рынку збыту ў Расіі скараціліся больш чым у 2 разы да 1769 машын, беларусаў пацяснілі канкурэнты КАМАЗ і ГАЗ.

**Магілёў.** Падчас гастроляў у горадзе цыркашапіто “Дзіва” страціла баланс і ўпала з вышыні сланіха Бэйбі, на шчасце, ні жывёліна, ні гледачы не пацярпелі.

**Мінск.** Сінод Беларускай праваслаўнай царквы прыняў і зацвердзіў новую адзіную назву сваіх прыходаў і манастыроў без ужывання ў пачатку слова “Свята”.

**Валожын.** У касцёле Дзевы Марыі ля райцэнтра знайшлі тайнік часоў вайны, верагодна, з акварэлямі знакамітага мастака Фердынанда Рушчыца і паперамі біскупа Віленскага.

**Гродна.** У будынку суда ў канцы працоўнага дня 40-гадовы гараджанін напаў з нажом на 34-гадовую жанчыну, судовага выканаўцу, за вялікія ўтрыманні аліментаў з зарплаты.

**Раўбічы.** На аднаўленне пасля віруснага захворвання 3-разовай алімпійскай чэмпіёнкі Домрачавай можа пайсці 3 месяцы, але яна можа прапусціць і цэлы сезон біятлону.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У вобласці ў маі колькасць зарэгістраваных беспрацоўных вырасла на 4,7 %, а за апошні год – ужо на 87,2 %, было звольнена за год больш 100 тысяч работнікаў.

**Орша.** На мясцовым льнокамбінаце пачалі прапрацоўваць пытанне аб стварэнні сваёй вытворчасці адзення з льняных тканін у адной з спецыяльных эканамічных зон Славакіі.

**Мёры.** У раёне пачалося будаўніцтва металапракатнага завода коштам 200 млн. еўра інвестыцый з Аўстрыі па выпуску з 2017 года да 150 тысяч тон белай бляхі штогод.

**Паставы.** Толькі ад нізкай якасці малака гаспадаркі раёна недаатрымалі ў студзені-маі 5 мільярдаў рублёў дадатковай выручкі, летась з-за ўспышкі АЧС страцілі 78 % пагалоўя свіней.

**Віцебск.** Па факту гучнага ДТЗ ноччу з удзелам матацыкліста і гібелі трох чалавек на Маскоўскім праспекце Следчы камітэт распачаў крымінальную справу.

**Бягомль.** Дэлегацыі арганізацый спажыўкааперацыі з 6 краін СНД агледзелі шэраг абноўленых гандлёвых аб'ектаў гарпасёлка, потым пабывалі ў Лепельскім раёне.

**Віцебск.** Абласны суд на закрытым працэсе пакараў 6 гадамі турмы былога дацэнта тэхналагічнага ўніверсітэта М. Жамчужнага за наўмыснае разглашэнне службовых тайн

**Глыбокае.** На працягу тыдня ў райцэнтры праходзіў III “Вішнёвы фестываль” з шэрагам канцэртаў, рэтрадыскатэкай, тэматычнымі выставамі і іншымі мерапрыемствамі.

**Віцебск.** У суд паступіла справа траіх маладых людзей ва ўзросце 22-23 гады, якія распаўсюджвалі наркотыкі праз інтэрнэт-магазін “Янот”, зарабілі больш 30 мільёнаў рублёў.

**Полацк.** Падчас V экалагічнага фестывалю “Полацкія чарніцы” у лясах на тэрыторыі 5 сельсаветаў раёна больш 150 каманд удзельнічалі ў традыцыйным конкурсе па збору ягад.

**Докшыцы.** У Бярэзінскім біясферным запаведніку адкрыўся для турыстаў вяровачны парк “Лясныя забавы” з некалькімі палосамі перашкод на вышыні сярод дрэў.

**Віцебск.** У 6 пунктах цэнтралізаванага тэсціравання вобласці праверылі свае веды 28,5 тысяч абітурыентаў, што на 1300 меней, чым летась, дваіх з іх выгналі за шпаргалкі.

**Наваполацк.** Супраць 77-гадовага пенсіянера распачалі крымінальную справу за ілжывае “мініраванне” дзетсада, раней так нашкодзіў сабе пенсіянер з Оршы за “падрыў” маста.

**Віцебск.** На працягу 2-х гадоў улады горада паабяцалі паставіць на беразе Дзвіны помнік рускаму князю А. Неўскаму, сродкаў на манумент М. Шагала – пакуль не знаходзіцца.

**Віцебск.** Падчас сольнага канцэрта гледачы параілі народнаму артысту РФ Г. Хазанаву напісаць басню аб “тунеядцах”, ён па няведанню заняўся антыдзяржаўнай прапагандай.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

# Фэсты ў Лучаі становяцца ўсё больш папулярнымі, усё больш прыязджае народу!

■ Уладзімір Скрабатун

Раней фэсты праводзіліся ледзьве не ў кожным (а мо і ў кожным) паселішчы, дзе існавала праваслаўная царква ці каталіцкі касцёл. І шмат якія фэсты, традыцыйна, перайшлі да праваслаўнай царквы яшчэ з уніяцкіх часоў, г.зн. мелі шматвякавую гісторыю. Ну, напрыклад, фэсты ў Беразвечы, ці Сароках. Аднак, усё гэта – у мінулым часе. І не толькі таму, што цэрквы ў Беразвечы, ці Сароках не захаваліся. Часы змяніліся! Раней любы касцельны ці царкоўны фэст "плаўна" пераходзіў ад богаслужэння ў храме да гандлю на прыцаркоўнай (ці прыкасцельнай) плошчы, куды з'язджаліся на конных фурманках гандляры і вернікі з далёкіх і блізкіх ваколіцаў, ды яшчэ і з начоўкай у дарозе. Сёння няма сэнсу ехаць з Шаркоўшчыны ці Браслава на Беразвецкі – гіпатэтычны – фэст, бо ўсё можна купіць у мясцовай краме, ці прадаць на тутэйшым рынку, альбо падаць абвестку аб куплі-продажы ў мясцовую газету. Таму, бадай што, засталося ўжо толькі богаслужэнне ў храме. Аднак традыцыя правядзення фэстаў не знікла зусім, а набыло новую рэчаіснасць.

Сёння ж арганізавацъ сучасны касцельны фэст – вялікае мастацтва. Напэўна, на Беларусі, ёсць і іншыя месцы акрамя Лучая, дзе праводзяцца фэсты, напрыклад, Мосар, але Лучай, апошнімі гадамі, заўсёды на слыху. Лучайскія фэсты становяцца ўсё больш папулярнымі не толькі сярод насельніцтва Пастаўскага раёна і блізкага Глыбоцкага, але і для ўсёй Беларусі. Шмат гасцей прыязджае з Мінска. Усё гэта адбываецца дзякуючы руплівай арганізацыйнай працы аднаго чалавека (а не цэлага аддзела) ксяндза Мікалая Ліпскага. Калі за Мосарам замацаваўся вобраз – "Беларускага Версаля", то за Лучаем усё больш замацоўваецца вобраз – "Паланэза над блакітнымі азёрамі". Так, прадстаўнікі роду Агінскіх маюць дачыненне да фундацыі лучайскага касцёла ў гонар св. Тадэвуша.

Штогод тэрыторыя вакол касцёла ўсё больш пераўтвараецца ў райскі куточак: мініяцюрныя сажалкі, фантанчыкі, статуі святых, кветнікі, альтанкі. Ужо гэта прываблівае прыехаць сюды не толькі вернікаў каталіцкай канфесіі, але і праваслаўнай і пратэстанцкай.

У мінулую суботу – 25 ліпеня – у Лучаі адбыўся адпуст і фэст у гонар святой Ганны. Урачыстую святую Імшу ў касцёле ўзначаліў біскуп Аляксандр Яшэўскі з Магілёва. Пасля Імшы адбылося асвячэнне аўтатранспарту праз заступніцтва святога Крыштафа, якога лічаць апекуном вадзіцеляў і пілігрымаў. Уся прыкасцельная плошча, а таксама вуліцы ў чатыры накірункі ад яе, былі цалкам запоўненыя аўтатранспартам і матацыкламі. Пад сотню з'ехалася!

Пасля духоўнай часткі фэсту адбыўся вялікі святочны канцэрт з выдатнымі артыстамі і добрай музыкай. Прыехалі Лявон Вольскі, папулярны вакаліст і гітарыст; музыка-віртуоз Дзмітрый Корсак; спявак Івай Буслай, лаўрэат шматлікіх міжнародных фестываляў; а таксама Валянціна Альшанская, салістка заслужанага калектыву дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь, ды Алег Сямёнаў, спявак, лаўрэат міжнародных конкурсаў, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне". Танцавальную праграму, у перапынках паміж выступленнямі артыстаў, прадставілі танцоры Гуцкай школы.

Таксама, падчас свята для гасцей, была магчымасць падсілкавацца і паўдзельнічаць у забавах, ды набыць на памяць у гандлёвых палатках мясцовы сувенір.

Увечары, калі сцямнела, адбылося прыгожае фаершоў, а на заканчэнне – феерверк.

Лучай, адназначна, пачаў уваходзіць у ТОПавую пяцёрку самых наведваемых месцаў нашага паўночнага захаду Беларусі, разам з Глыбокім ("Вішнёвы фестываль"), Паставамі (фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік"), Браславам (фестываль "Меч Брачыслава"), Мёрамі (фестываль "Журавіны і жураўлі Мёрскага краю").



З лучайскай сцэны выступае папулярны вакаліст і гітарыст Лявон Вольскі (злева), уладальнік шматлікіх музычных узнагарод, як персанальных, так і ў якасці ўдзельніка розных калектываў.



Спявае дуэт Валянціна Альшанская і Алег Сямёнаў. У скокі кінуліся нават ксяндзы.

## Падатак для ўладальнікаў аграсядзіб могуць павялічыць у 12 разоў

**Падатак можа вырасці ў 12 разоў і скласці 2 мільёны рублёў. Таксама магчыма, што ён будзе прывязаны да прыбытку.**

Разглядаюцца варыянты, каб усталяваць каэфіцыент, пры перавышэнні якога аграсядзіба павінна заплаціць вызначаную суму дзяржаве, перадае "Радыё Рацыя".

Беларускае грамадскае аб'яднанне "Адпачынак у вёсцы" паведамляе, што яно ўнесла свае прапановы заканадаўцам, але праект разглядаецца непублічна. Па меркаванні дырэктара дзяржаўнага заказніка "Сярэдняя Прыпяць і Простыр" Віктара Бялянкі, лепш даць загад аграсядзібам падцягнуцца да больш ці меней адпаведнага ўзроўню.

– Пытанне складаецца ў тым, што развіццё аграсядзіб яшчэ не ў той меры, гэта яшчэ не той сэрвіс, які сядзібы павінны падаць турысту. Яны яшчэ не адпавядаюць еўрапейскім стандартам, каб была гарачая, халодная вада, асобныя нумары і харчаванне, – распавёў ён.

Па інфармацыі Міністэрства спорту і турызму ў Беларусі больш дзвюх тысяч аграсядзіб, якія за мінулы год наведала 320 тысяч чалавек. Падатак цяпер складае 180 тысяч рублёў у год.



## Рэгістравацца ў e-konsulat для атрымання польскай візы можна будзе тры разы на месяц

**Рэгістравацца ў сістэме e-konsulat для атрымання візы ў пасольстве Польшчы можна будзе тры разы ў месяц. Аб гэтым паведаміла прэс-сакратар пасольства Польшчы ў Мінску Ганна Дзерска.**

Новы графік рэгістрацыі візавых анкет пачне дзейнічаць з 28 ліпеня. Рэгістравацца ў сістэме e-konsulat для падачы візавых анкет у консульскі аддзел пасольства Польшчы ў Беларусі можна будзе 8, 18 і 28 числа кожнага месяца з 19.00.

Калі гэтыя дні будуць выхаднымі (прадугледжанымі як польскім, так і беларускім календаром), то зарэгістравацца можна будзе ў апошні рабочы дзень, які папярэднічае выхадному.

Электронная рэгістрацыя ў сістэме з'яўляецца абавязковай для падачы дакументаў на візу ў Польшчу. Раней рэгістравацца ў e-konsulat можна было адзін раз у месяц.

*БелТА*



## З 8 жніўня – адкрыццё сезону палявання на дзічыну

Установа "Глыбоцкая РАС" РДГФ "БТПР" з 8 жніўня адкрывае летне-асенні паляўнічы сезон на вадаплаўную і балотную дзічыну.

**Усе даведкі па адрасе: г. Глыбокае, вуліца Палявая, 11-а, п.1, альбо па тэлефоне: 2-86-96.**

*Установа Глыбоцкая РАС РДГФ "БТПР".*

## Следчыя ўсталёўваюць акалічнасці забойства егера ў Віцебскай вобласці

Следчыя ўсталёўваюць акалічнасці забойства егера ў Віцебскай вобласці, паведаміла БелТА афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова. Увечары 24 ліпеня ў праваахоўныя органы паступіла інфармацыя, што ў двары ўласнага дома, размешчанага ў вёсцы Цвеціна Мёрскага раёна Віцебскай вобласці, з агнястрэльнай зброі забіты егер ДЛГУ "Дзісненскі лясгас" 1958 г.нр. Меркаваны злачынец з месца здарэння схаваўся. З мэтай усталявання падазраванай асобы па гарачых слядах у сямі раёнах вобласці ўводзіўся план "Сірэна", былі задзейнічаны ўсе неабходныя сілы падраздзяленняў Следчага камітэта і органаў унутраных спраў. Раніцай наступнага дня па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства ў кінутым доме, размешчаным у вёсцы Цвеціна, затрыманы мясцовы жыхар 1970 г.нр. У стаўленні падазраванага Мёрскім раённым аддзелам Следчага камітэта ўзбуджана крымінальная справа па п.6 ч.2 арт.139 (забойства, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю) Крымінальнага кодэкса. Следчыя працягваюць працу па крымінальнай справе: дапытваюць сведак, фіксуюць матэрыяльныя сляды злачынства, прызначаюць экспертныя даследаванні, праводзяць іншыя неабходныя следчыя дзеянні. Меркаваным матывам здзяйснення злачынства з'яўляецца помста за выкананне мужчынам грамадскага абавязку.

# Аляксей Протас: Хай мы і "калгаснікі", але гадзіць і нахабнічаць на нашай зямлі не дазволім




**Беларусь не абдзелена воднымі рэсурсамі, асабліва Віцебская вобласць, не выключэнне тут і Глыбоцкі раён. На тэрыторыі раёна размешчана больш за 100 азёр і вадаёмаў, многія з іх размешчаныя ў найпрыгажэйшых месцах.**

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

З кожным годам усё больш аматараў рыбалкі і проста адпачывальнікаў можна сустрэць на нашых вадаёмах, гэта сведчыць аб тым, што ёсць у нашых азёрах шмат рознай рыбы. Штотыдзень вадаёмы раёна наведваюць сотні рыбаловаў і адпачываючых з розных куткоў нашай краіны і блізкага замежжа. Аднак, адносіны да прыроды і да работнікаў, якія ажыццяўляюць яе ахову ў асобных гасцей са сталіцы нашай Радзімы, вельмі своеасаблівае, калі не сказаць, хамскае. Штогод супрацоўнікі міжраённай інспекцыі сутыкаюцца з жыхарамі г. Мінска, якія прыязджаючы на прыгожыя, чыстыя, рыбныя азёры раёна паводзяць сябе як дзікуны, ставяць сеткі, кідаюць смецце, а ў выпадку затрымання за парушэнні аказваюць непадпарадкаванне інспектарам, абражаюць, кажуць "Вы – калгаснікі, дзеревня і т.д.".

Так, 24 ліпеня 2015 года супрацоўнікам інспекцыі паступіла паведамленне аб тым, што на возеры Вялікая Пліса Глыбоцкага раёна ўстаноўлена браканьерская сетка, а побач на беразе адпачывае кампанія жыхароў г. Мінска. Інспектары, як толькі прыехалі, знялі сетку, але адзін з адпачываючых стаў крычаць, што гэта яго сетка і чапаць яе нельга, таму што ён "гаспадар раёна". Як толькі інспектар выплыў на бераг, незнаёмы мужчына схапіў з лодкі інспектара сетку і пабег у лес, але забег недалёка, бо быў затрыманы інспектарамі. На дапамогу "гаспадару раёна" адразу ж прыбегла жонка з малалетнім дзіцем, і справа прыняла зусім нежартоўны абарот. Вынік – падраныя кашулі інспектараў, нарад міліцыі і складзеныя два адміністрацыйныя пратаколы на мінчаніна за браканьерства і непадпарадкаванне інспектарам, а таксама на яго жонку. Інспектары выслухалі ў свой адрас абразы, нецэнзурную лаянку, пагрозы звальнення з працы. Усё гэта адбывалася на вачах дзясяткаў законапаслухмяных грамадзян, якія таксама адпачывалі на возеры і былі абураныя паводзінамі такіх "разумных" гасцей са сталіцы. Спадзяемся, што раённы суд улічыць хамскія паводзіны гэтай пары, а прыкладзеная да справы відэаздымка "культурных паводзінаў", вельмі выхаваных і адукаваных сталічных гасцей, будзе гэтаму пацвярджэннем. Хай мы і "калгаснікі", як кажуць асобныя сталічныя індывіды, але гадзіць і нахабнічаць на нашай зямлі не дазволім, закон ён і для такіх нахабных гасцей – закон. Дзякуй усім грамадзянам за дапамогу ў ахове нашай прыроды ад такіх вось "гасцей са сталіцы".

Ахове вадаёмаў ад браканьераўсупрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету надаецца значная ўвага, з дапамогай добраахвотных памочнікаў, простых грамадзян, міжраённай інспекцыяй штотыдзень спыняюцца спробы незаконнай здабычы рыбы.

За 7 месяцаў бягучага года работнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі на тэрыторыі, за якую мы адказваем, затрымана больш за 150 парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, канфіскавана 2 км браканьерскіх сетак, 7 брэдняў, нерат, 98 кг незаконна здабытай рыбы.

26 ліпеня гэтага года па паведамленні грамадзян паблізу в. Раманчукі Глыбоцкага раёна на штучным вадаёме затрыманыя двое мясцовых жыхароў, якія ажыццяўлялі лоўлю рыбы брэднем і хай рыбы яны здабыць не паспелі, але штраф "злавілі" і не маленькі.



Прыемна, што з кожным днём усё радзей і радзей на нашых вадаёмах сустракаюцца браканьеры, а людзі з разуменнем ставяцца да праблем захавання рыбных рэсурсаў, неацэнную дапамогу інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі аказваюць простыя рыбаловы-аматары, вялікі ім дзякуй.

**Тэлефоны "гарачай лініі" Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-28670, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**

# Рыбакі: сябры ці ворагі?

**Рыбалка даўно ўжо стала папулярным выглядам спорту і адпачынку. Усё большую колькасць рыбаловаў можна ўбачыць на вадаёмах у межах гарадоў і ў прыгараднай зоне. Адразу хачу ўдакладніць, рыбаловамі (рыбакамі) я называю людзей, якія ловяць рыбу спартыўнымі снасцямі і не робяць шкоды вадаёму.**

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

У вялікіх гарадах, на набярэжных рыбакі займаюць месцы праз кожных 5-8 м. Такім чынам, узнікае нейкая "канкурэнцыя» і павышаны ўзровень ўзаемадзеяння паміж імі. Існуе шмат прымавак на тэму рыбалкі і рыбакоў. Напрыклад: "Рыбак рыбака видит издалека», "Рыбак рыбака ненавидит наверняка» ...і гэтак далей. Складаецца меркаванне, што **рыбакі – гэта канкурэнты**, якія пастаянна вядуць барацьбу паміж сабой. Ды і сам не раз бачыў насмешкі, у выпадку рыбы, якая сарвалася, або нейкай няўдачы на рыбалцы. Такія паводзіны **не могуць быць дапушчальнымі** для рыбаловаў, якія хоць крыху сябе паважаюць. Канкурэнцыі на рыбалцы не можа быць у прынцыпе. Бо рыбы ў вадаёме непараўнальна больш, чым саміх рыбаловаў.

Першапачатковая верагоднасць ўлову практычна аднолькавая для кожнага рыбалова. Павысіць яе можа толькі сам рыбалоў, павялічваючы **свае веды пра рыбу, вадаём, уплыў надвор'я і правільны выбар спосабу лоўлі**. І яшчэ трэба мець жалезную упэўненасць, што рыба трымаецца менавіта каля вашага месца лоўлі, а не ў суседа. Магчыма, лічыць рыбаловаў "супернікамі", у рамках "конкурсу», напрыклад: хто зловіць самую вялікую рыбу. Тут адыграе сваю ролю **вопыт і ўменне**. Несумненна, у кожнага рыбалова розныя фінансавыя магчымасці. Для прыкладу, возьмем двух спінінгістаў. У аднаго ў арсенале можа быць некалькі блеснаў, пару вібрахвостаў і адзін воблер, а ў іншага цэлая скрыня разнастайных прынад. І ведаеце, у большасці выпадкаў перамажа першы. Чаму? Таму, што, хоць прынады і не падыдуць пад усе ўмовы лоўлі, але першы спінінгіст дасканала ведае іх паводзіны. А другі будзе пастаянна даследаваць, настройвацца пры кожнай змене прынады.

Мы зноў прыйшлі да сцвярджэння пра аднолькавую верагоднасць ўлову. Справа толькі за навыкамі і шанцаваннем. Высноваа: рыбаловы павінны быць сябрамі і падчас спаборніцтваў і пасля, незалежна, знаёмыя яны ці не. Сябры павінны і паводзіць сябе як сябры, выконваючы агульнапрынятыя **маральныя нормы паводзін:** трэба падзяліцца прынадай, калі ў суседа яна скончылася, дапамагчы з падсакам, каб дастаць буйную рыбу, падказаць рэцэпт прыкормкі, (а калі не хочаце, то лепш ветліва адмовіць, сказаць, што гэта асабісты сакрэт), парадак і правільнасць аснасткі вуды, і многае іншае – проста быць чалавекам.

Магу прывесці прыклад з асабістага вопыту. Калісьці, знаходзячыся ў чарговым рэйдзе, я назіраў за рыбакамі на невялікім лясным возеры, – лавілася ў асноўным невялікая плотка і акунь. Рыбакоў было ўсяго двое: адзін непадалёк ад нас і яшчэ адзін, на супрацьлеглым беразе. З рыбалоўных прыладаў – толькі вуды. Раптам у аднаго з рыбакоў клюнула добрая рыба, у выніку гэта апынуўся лешч, ўзважванне паказала 2 кг. У рыбака не было чым падхваціць рыбу, і бераг быў складаны. Заставалася толькі выцягваць на леску, што практычна гарантавала зыход рыбы. На шчасце рыбалова, рыбак з супрацьлеглага берага ўбачыў гэтую сітуацыю. Ён закрычаў: "Патрымай яго, я зараз дапамагу» – і пабег да суседа. Прыбегшы, ён зайшоў у ваду і выкінуў ляшча на бераг. Інспектарам і ўдачліваму рыбалову было прыемна, калі зусім незнаёмы рыбалоў прыйшоў на дапамогу. Можна з упэўненасцю сказаць, што калі мы будзем дапамагаць адзін аднаму, то ў нашых садках будзе больш рыбы і больш прыемных успамінаў аб рыбалцы.



# Ля фантана, ці: "Месца сустрэчы змяніць немагчыма"

**Сустракацца на плошчы ў скверы ля фантана праз кожныя два гады стала традыцыяй школьных сяброў 11А класа 1965 года выпуску Глыбоцкай СШ №2.**



■ **Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*



У ліпені адбылася чарговая сустрэча, найбольш значная, таму што прайшло пяцьдзясят гадоў, як мы закончылі сярэднюю школу. Дарэчы, наш выпуск – першы ў новым будынку па вуліцы Вольнай, дзе правучыліся толькі адзін год. Больш успамінаў звязана з "чырвонай" школай, на месцы якой цяпер новая СШ№1, былая беларуская. Не ў крыўду будзе сказана педагагічнаму калектыву нашай роднай школы, але нас не шукалі ні ў мінулым, ні ў сёлетнім годзе. Шкада. Прайшло паўвека, мы актыўна жывём, і сярод нас, выпускнікоў 1965 года, шмат цікавых людзей. У сценах гэтай школы мы спасцігалі навуку, займаліся спортам, працавалі, марылі, сябравалі.

На спатканне з юнацтвам прыйшлі не толькі глыбачане, але прыехалі былыя выпускнікі з Мінска, Наваполацка, нават з Латвіі. Люба Каралёва наведала сваю маленькую радзіму з мужам і сынам. Гасцей з Прыбалтыкі вельмі ўразіў наш прыгожы горад з еўрапейскім дызайнам, чысты і ўтульны, камфортны для адпачынку жыхароў, з мноствам славутасцяў, скульптурных кампазіцый.

Размову прадоўжылі зя сяброўскай вячэрай у кавярні "Неон". Ішла шырокая гаворка пра ўсё: школьных гадах, надзённых справах, дзецях і ўнуках, любімых занятках, паэзіі. Газету "Вольнае Глыбокае" і сайт гэтага выдання ведаюць усе. Госці з Юрмалы выказалі слушную думку, што трэба было б карэспандэнта на сустрэчу запрасіць. Асаблівая дата дазваляла гэта зрабіць, своечасова не падумалі.

Сур'ёзнае перамяжоўвалася з жартамі. Мае сябры, нягледзячы на сталы ўзрост, не толькі рэалістыаптымісты, але і крыху рамантыкі і летуценнікі – засталося з юнацкіх гадоў. Самадастковыя і адукаваныя людзі яны "прабівалі" сабе жыццёвы шлях самі. Быў ён і пакручасты, і з выбітымі каляінамі. Але галоўнай мэтай кожнага было імкненне вытрымаць экзамен на чалавечую годнасць.

Інжынеры, урачы, вайскоўцы, настаўнікі, выхавальнікі дашкольных устаноў, спецыялісты па будаўніцтву, гандлю, сельскай гаспадарцы, юрысты – не ўсе пералічаныя спецыяльнасці, па якіх працавалі мае школьныя сябры. Кожны з іх заслугоўвае добрага слова і павагі.

Пяцьдзясят гадоў працоўнага стажу(толькі ў гэтым годзе пайшла на пенсію) у інжынера аддзела галоўнага энергетыка МТЗ Забродскай Л.С. (Яршовай). Усе гады свайго працоўнага жыцця аддавалі дзецям цеплыню і дабрыню сэрцаў Анна Карчагіна (Шаўчэнка), Валянціна Кірэй (Альхімёнак), Валянціна Дзеравенская (Гламаздзіна), Валянціна Майсяёнак. Доўгія гады працавала выкладчыцай у Глыбоцкім прафтэхліцэі Антаніна Петрачэнка (Сямёнава). Клапаціўся, каб заўсёды былі спраўныя на маршрутах аўтобусы і грузавыя машыны механік Глыбоцкай аўтабазы Аляксандр Зяваліч, які ведаў і любіў сваю справу. Працавала ў родным горадзе і выхавала цудоўных дзяцей шматдзетная маці Ала Гупала (Тарыкава). Прыгожай і прывабнай засталася Марына Пяткевіч, разважлівай, памяркоўнай – Люда Буйневіч (Золатава). На жаль, з дзевяці нашых хлопцаў засталося толькі двое: наш "разумнік" Міша Дзеравенскі і былы спартовец Віця Сарычаў. Яны, як ахоўнікі, у нашым жаночым калектыве.

Калі пачалі дамаўляцца аб месцы наступнага рандэву, нехта жартам ці ўсур'ёз сказаў: "Месца сустрэчы змяніць немагчыма". Фраза – назва савецкага фільма пра маёра Жыглова і Валодзю Шарапава. Яна прагучала, як пароль, і азначае: плошча, сквер, ля фантана.

## Ля фантана

Ля фантана нагода сабрацца,
Пяцьдзясят каб адзначыць усім разам.
Нібы з школьнага балю вяртацца
Адзінаццатым А дружным класам.
Зноў з юнацтвам сваім сустракацца,
Дзе кружыліся ў вальсе гады.
Яшчэ хочацца з лёсам спрачацца,
Яшчэ думаць, што ты малады.
Не звярнулі з жыццёвай дарогі,
Куды школьная сцежка вяла.
Не зламалі нас беды, трывогі,
І любоў да жыцця ўсё расла.
Час няўмольны, шарэнга радзее
Маіх школьных любімых сяброў.
Жыві ў лепшае з верай, надзеяй,
Годны шлях у жыцці кожны прайшоў.
Хоць гады несупынна імчацца,
Заставацца ў спакоі нам рана.
Будзем верыць і спадзявацца:
Яшчэ прыйдзем у сквер ля фантана.

*Людміла Ардынская*



## Віншаванкі

*Насцю Адамовіч*

**віншуем з Днём нараджэння!**

Настя, Настенька, Настюша!
Ты сегодня нас послушай:
С днем рождения тебя
Поздравляет вся семья!

Пусть годы мчатся чередой,
Минуя все ненастья!
А мы желаем всех душой
Любви тебе и счастья!

*Дзядуля і бабуля, мама і цёця Наташа.*

*Ігара Іванавіча Скрабатуна*

**віншуем з Днём нараджэння!**

Прекрасный друг, отличный парень –
Игорь, это о тебе!
Тебя мы праздновать заставим!
Желаем радостей в судьбе,

Пускай везет во всем на свете,
В делах, работе и любви!
Пусть будет лишь попутным ветер!
Пусть планы сбудутся твои!

*Сям'я Скрабатуноў.*

## У Беларусі рэзка ўзрасла колькасць рамеснікаў

**Гэта вынікае са звестак, апублікаваных прэсслужбай Міністэрства эканомікі.**

■ **Марына Носава,** *БелаПАН*

Так, за першае паўгоддзе 2015 года ў краіне зарэгістравалася 7.010 новых рамеснікаў, з якіх 2.940 чалавек – за другі квартал гэтага года. Для параўнання, за ўвесь 2014 год было зарэгістравана 8.776 рамеснікаў.

Паводле вынікаў шасці месяцаў найбольшая колькасць фізічных асоб, якія выплацілі збор за ажыццяўленне рамеснай дзейнасці, налічваецца ў Мінску (1.643 чалавекі) і Віцебскай вобласці (1.042 чалавекі), найменшая — у Магілёўскай вобласці (752 чалавекі).

«У Беларусі створаны спрыяльныя ўмовы для ажыццяўлення рамеснай дзейнасці, дзякуючы чаму колькасць фізічных асоб, якія выказваюць жаданне займацца самастойнай дзейнасцю па вытворчасці вырабаў рамеснай творчасці, увесь час павялічваецца», – лічаць у міністэрстве.

Разам з тым шэраг экспертаў звязваюць рост колькасці рамеснікаў і афіцыйных беспрацоўных з прыняццем гэтак званага дэкрэта аб дармаедах.

Нагадаем, дэкрэт прэзідэнта №3 «Аб прадухіленні сацыяльнага ўтрыманства» быў падпісаны 2 красавіка. Ім устаноўлены абавязак грамадзян Беларусі, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі краіны і не ўдзельнічалі ў фінансаванні дзяржаўных расходаў ці ўдзельнічалі ў такім фінансаванні менш як 183 каляндарныя дні ў мінулым годзе, па выплаце збору ў 20 базавых велічынь (на сёння – 3 млн. 600 тыс. рублёў).

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»

## ПАНЯДЗЕЛАК, 3 жніўня




**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05**Клуб редакторов.
**10.45 «Долгий путь домой»** (Россия).
**11.00** 90 секунд.
**11.45** Мелодрама **«Букет»** (Россия).
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.45 «Любовь с испытательным сроком»**. 1-я сер.
**15.00** Новости.
**15.15**Новости региона.
**16.00** 90 секунд.
**16.05** Мелодрама **«Любовь с испытательным сроком»**. 2-я сер.
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00 «Долгий путь домой»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.40** Форум с Дмитрием Бочковым.
**22.40 «След»**
**00.15** Зона Х.
**00.30** Новости.
**00.50** День спорта.
**01.00 «Букет»**




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.30** Комедия **«Неподдающиеся»**.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Без свидетелей».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет».«Барселона-92. Последнее золото».
**18.55** «Пусть говорят».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Три аккорда».
**23.55** Ночные новости.




**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Ковчег»**
**10.30** Телебарометр.
**11.00** Анимация для всей семьи. **«Облачно, возможны осадки в виде фрикаделек»**
**12.40 «Седьмая руна»** (Россия). 1 я - 4-я серии.
**16.25** Фантастико-приключенческий сериал **«Ковчег»** (Испания).
**17.55** Комедийный сериал **«Ландыш серебристый»** (Россия).
**19.10** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**21.00** Реальный мир.
**21.35** Телебарометр.
**21.40** КЕНО.
**21.45** «Экстрасенсы-детективы». (Украина).
**22.40** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**23.35** Комедийный сериал **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**00.50** Комедийный сериал **«Ландыш серебристый»** (Россия).




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя». Информационно-аналитическая программа.
**09.25** «Большой завтрак»
**10.05** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Солдаты 8»**. Сериал.
**11.30** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Тотальная распродажа».
**14.45** «Чистая работа».
**15.35** «Документальный проект»: «Крылатая раса».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Создатели».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Кино»: **«Сноровка... и как ее приобрести»**. Великобритания, 1965г.
**00.30** «Заговор павших»,«Подземные марсиане».




**07.00 Каханне ля поплаву**, тэлесерыял
**07.50 Mad Men. Утрапёныя III**, серыял
**08.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**09.05** Урок беларускай мовы, д/ф
**10.00** Невядомая Беларусь**.** Таямніца следства. P.S., д/ф
**10.30** Назад у будучыню**.** Паўночная вайна
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні**.** Міхал Баброўскі
**10.55** Загадкі беларускай гісторыі**.** Загадкі Лаўрышаўскай лаўры
**11.10** Мова нанова**.** Адукацыя
**11.25** Беларусы ў Польшчы
**11.45 Ціхі хаос**, м/ф
**16.00 Mad Men. Утрапёныя III**, серыял
**16.45** Заўтра, д/ф
**18.25** Размовы эксперта**.** Павел Севярынец
**18.45** Побач з намі
**19.00** Назад у будучыню**.** Паўночная вайна
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні**.** Ігнат Даніловіч
**19.25** Невядомая Беларусь**.** Пастка для прэзідэнта, д/ф
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** 54 %
**21.45** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф. ч. 3
**22.35 Ціхі хаос**, м/ф
**00.25** Студыя «Белсат»

